Цана 15 гр. „Biełaruski Front“ 15 marca 1939 r. Przesyłka opłacona ryczałtem

# БЕЛАРУСКІ ФРОНТ

ВЫХОДЗІЦЬ 1-га і 15-га КОЖНАГА МЕСЯЦА

РЭДАКЦЫЯ і АДМІНІСТРАЦЫЯ:
Вільня, Вострабрамская вул. 1 — 20 (Wilno, ul. Ostrobramska 1 — 20).
Адчынена ад 9 да 19 г.

**Выпіска:** на год — 2 зал., на паўг. — 1 зал., на 3 м-цы — 50 гр.
Нумар конта паштовага разрахунку: 100

НЕЗАЛЕЖНЫ НАРОДНА-РАДЫКАЛЬНЫ ЧАСАПІС

№ 6 (40) Вільня, 15 сакавіка 1939 г. Год IV

## У ДВАЦЦАЦЬ ПЕРШЫЯ ЎГОДКІ.

25 сакавіка сёлета мінае 21 год ад дня Абвешчаньня Незалежнасьці Беларусі. Рада Беларускай Народнай Рэспублікі, як выбраная прадстаўніца Агульна-Беларускага Кангрэсу, дня 25 сакавіка 1918 году ў Менску абвесьціла Беларусь незалежнай і вольнай. Факт гэты належыць ужо да гісторыі і дзеля гэтага мы падойдзем да яго з гістарычнага пункту гледжаньня.

Для людзей, якія стаялі і стаяць воддаль ад гэтага факту, зьяўляецца часта незразумелым, чаму беларускі народ не патрапіў тады зрэалізаваць гэтай пастановы сваіх прадстаўнікоў. Аднак, прыглядаючыся зусім аб'ектыўна да тагачасных нутраных і вонкавых абставін, трэба прызнаць, што нутр. абставіны былі вельмі неспрыяючыя для рэалізацыі гэтай вялікай пастановы.

Як ведама з практыкі ўсіх народаў, для рэалізацыі незалежнасьці патрэбны *два варункі:* першы — сьпеласьць народу да гэтага вялікага акту, другі — спрыяючыя вонкавыя абставіны.

Адносна першага варунку трэба сьцьвердзіць, што Беларускі народ у сваей масе ў той час яшчэ гэтай незалежнасьці не разумеў. Як мы ўжо пісалі ў мінулым годзе („Бел. Фр.“ 5.IX.38), патрэбу незалежнасьці разумелі ў 1918 г. толькі „вярхі“ беларускага народу ў асобе малой тады яшчэ на лік беларускай інтэлігенцыі, а „нізы“ на ўсе довады аб патрэбе незалежнасьці адказвалі пасвоему: „у Беларусі няма солі і газы“... Мала памагалі доказы, што без свае солі і газы існуе шмат дзяржаваў і што за плады свайго краю выпісваюцца з заграніцы ня толькі соль і газа, але і важнейшыя прадметы!.. Народныя масы ў той час незалежнасьці не разумелі. Ані розум (сьведамасьць) беларускіх народных масаў, ані іх воля яшчэ ня былі прыгатаваны да такой вялікай справы, як рэалізаваньне незалежнасьці.

Адносна другога варунку трэба прызнаць, што палітычныя абставіны дзеля будаваньня незалежнасьці былі ў той час вельмі спрыяючымі, як рэдка калі ў гісторыі. Расейская імпэрыя, справядліва названая турмою народаў, разваліласа, усе паняволеныя ею народы, якія дасьпелі да незалежнасьці, будавалі свае адздельныя, самастойныя дзяржавы. Беларускія дзеячы не маглі астацца ззаду, бо пагражала вялікая небясьпека, што чужыя сілы, сарганізаваўшыся перш за беларусаў, могуць захапіць для сябе часьці беларускай тэрыторыі, карыстаючыся тым, што гэта тэрыторыя яшчэ ня мела гаспадара... Найбольшым ворагам незалежнасьці Беларусі зьяўляліся тады паміж іншымі і бальшавікі. І гэта зразумела. Яны атрымалі ў спадчыне расейскі цэнтралізм і выступілі на палітычную арэну як вялікія ворагі ўсякіх вызвольных ад Расеі імкненьняў; апроч гэтага яны паставілі сабе мэтай злучыць усе народы сілаю ў камуністычным саюзе (Камінтэрне). Значыць, бальшавікі былі (і ёсьць) прыроднымі ворагамі незалежнасьці Беларусі.

Беларускія дзеячы ў Менску ясна здавалі сабе справу, што першым варункам рэалізацыі незалежнасьці ёсьць сьведамасьць народу аб патрэбе гэтай незалежнасьці і воля здабыць яе; а другім варункам ёсьць прызнаньне гэтай незалежнасьці іншымі дзяржавамі. У той час гэтакіх дзяржаваў ня было.

Англія і Францыя ніколі не былі заінтарасаваныя ў паўстаньні незалежнай Беларусі. Будучы натуральнымі ворагамі Нямеччыны, яны заўсёды дзяржаліся тэй лініі, каб стварыць на ўсход ад Нямеччыны як найсільнейшую дзяржаву. Існаваньне сільнага дзяржаўнага арганізму на Ўсходзе (бяз розьніцы, расейскага ці польскага) заўсёды ляжала ў іх інтарэсах. Дзеля гэтага тварэньне новых дзяржаўных арганізмаў, якія-б аслаблялі Расею, ня было згодна з іх інтарэсамі і не магло выклікаць у іх спагаднасьці.

Японія тады была саюзьніцай Англіі і Францыі, а нават і Расеі і ня ўмешвалася ў далёкія эўрапэйскія справы. Нямеччына ня мела ясна выпрацаванай лініі на ўсходзе: раз яна хацела захаваць вялікую Расейскую імпэрыю і ўвайсьці з ею ў саюз, другі раз яна імкнулася да аслабленьня яе пры помачы бальшавікоў, паддзерываючы ў ёй бязупыннае рэвалюцыйнае бурленьне і выкарыстоўваючы яе сыравіны. Ніякай Беларусі ў 1918 годзе Нямеччына не прызнавала. Паводле Берасьцейскага міру Нямеччына перад бальшавікамі забавязалася не тварыць на савецкім абшары ніякіх новых дзяржаўных арганізмаў (гэтае забавязаньне датычыла ў першую чаргу Беларусі), апроч гэтага Нямеччына хацела мець беспасярэднія зносіны з абшырным расейскім рынкам, а такія зносіны магчымы былі толькі праз этнаграфічную беларускую тэрыторыю. З гэтых прычын Нямеччына адхіляла ўсе стараньні беларусаў у справе прызнаньня незалежнасьці Беларусі. Нямецкія дэцыдуючыя дзейнікі ўсьцяж заяўлялі беларусам, што ў справе незалежнасьці Беларусі яны павінны паразумецца з бальшавікамі, бо гэта ёсьць нутраная справа заселяючых Расею народаў...

Гэтак прадстаўлялася справа рэалізацыі незалежнасьці Беларусі ў 1918 годзе. Цяпер гэта справа прадстаўляецца інакш. Сьведамасьць і воля беларускага народу ў Саветах, як аб гэтым ідуць бязупынныя весьці, узрасла за гэтыя 21 год значна, дзеля гэтага камуністычныя ўлады ліквідуюць беларускіх палітычных дзеячоў і нават культурных працаўнікоў, праводзяць ліквідацыю беларускага нацыянальнага пачуцьця ў масах, стараюцца праз „рэформу“ беларускага правапісу і граматыкі прыблізіць беларускую мову да расейскай. Але паміма ўсяго нацыянальная беларуская сьведамасьць і воля да здабыцьця незалежнасьці там расьце. Вонкавыя абставіны таксама перамяніліся. Праўда, Англія і Францыя асталіся пры старых паглядах і справай незалежнасьці Беларусі не інтарасуюцца або адносяцца да яе варожа, затое Японія і Нямеччына зьмянілі сваё становішча і цяпер заінтарасаваны ў падзеле Расеі на паасобныя нацыянальныя дзяржавы. Гэтакага самага пагляду дзяржацца некаторыя польскія дзейнікі (промэтэісты).

## ПАДЗЕІ НА БЛІЗКІМ УСХОДЗЕ.

Гаворачы ў папярэднім нумары „Бел. Фронту“ аб сусьветнай мабілізацыі сіл, мы зьвярнулі асаблівую ўвагу на два пункты гэтай мабілізацыі: першы пункт — гэта Захад Эўропы (Гішпанія, Бэльгія, Галяндыя), другі пункт — гэта Ўсход Эўропы (Балканы, Румынія, Вугрыя, Чэхаславаччына, Польшч, Прыбалтыка). Як на Захадзе так і на Ўсходзе мабілізацыя паволі прыходзіць да канца, налажэньне выясьняецца, дзяржавы дэцыдуюцца з кім ісьці, куды і пашто. Нас тут інтарасуюць пляны ня толькі вялікіх дзяржаў (Англіі, Францыі, Нямеччыны, Італіі), але сярэдніх і малых, якія ляжаць на Ўсходзе Эўропы.

Ня трэба хіба ўспамінаць, што галоўнымі мотарамі палітычных камбінацыяў на блізкім Ўсходзе зьяўляюцца дзьве дзяржавы: Англія і Нямеччына. Аб нямецкіх плянах на Ўсходзе мы ўжо пісалі ў папярэдніх нумарох „Б. Ф.“ і дзеля гэтага іх паўтараць ня будзем. Англія да гэтых плянаў спачатку адносілася роўнадушна, а нават спрыяюча: няхай, маўляў, Нямеччына ідзе сабе на Ўсход, тады прынамся будзе спакайней на Захадзе і Нямеччына ня будзе выступаць з жаданьнем калёніяў. Але потым, калі выявіліся пляны будаваньня паміж Бэрлінам і Токіё **вялікага шляху**, маючага на мэце злучыць праз Усх. Эўропу (Украіну, Дон, Каўказ) і Зах. Азію (Пэрсію, расейскі і кітайскі Туркестан) двух найбольшых ворагаў Англіі, Нямеччыны і Японіі, Англія пераходзіць да рашучага контрнаступленьня, каб да гэтага злучэньня не дапусьціць. Цяпер мы зьяўляемся сьведкамі гэтага контрнаступленьня.

Англія пачала ад **Югаславіі**, дзе пару месяцаў таму быў князь Кэнту, брат англійскага караля (пасьля гэтага князь Кэнту быў прыватна і ў Польшчы, як госьць польскай арыстакрацыі). Бадай аднačасна быў у Лёндыне румынскі кароль Караль II, які пасьля павароту з Лёндыну і гутаркі з Гітлерам у Бэрхтэсгадэн (Караль II заяжджаў туды пры павароце з Лёндыну) пачаў востра ліквідаваць сваіх фашыстаў, якія ар'ентаваліся на Бэрлін. Пасьля гэтага **Румынія** атрымала ад Англіі значныя крэдыты і здэцыдавана павярнула ў бок Англіі. Зараз потым прыйшла чарга на Чэхаславаччыну і там цяпер адбываюцца цікавыя падзеі.

**Чэхаславаччына** пасьля трагічных верасьнёвых дзён, калі, пакінутая сваімі саюзьніцамі, прымушана была ўступіць Нямеччыне Судэты з усімі ўкрапленьнямі і нават уваружэньнем іх (чэская лінія Мажыно), зар'ентавалася на Нямеччыну, як на дэцыдуючую ў Эўропе дзяржаву. Англія і Францыя ў верасьні не маглі даць помачы і нават не разумелі патрэбы яе. Цяпер-жа, калі Англія зразумела ўсю небясьпеку нямецкага паходу на Ўсход, яна пачала рабіць вялікія стараньні, каб Чэхаславаччыну прыцягнуць на свой бок. Відаць, зрабіла ёй нейкія абяцаньні, магчыма,

# На міжнародным грунце

## НЕЗАЛЕЖНАСЬЦЬ СЛАВАКІІ. ВУГРЫЯ ЗАЙМАЕ КАРП. УКРАІНУ, А НЯМЕЧЧЫНА ЧЭХІЮ.

**Апошнія тэлеграмы прынясьлі вестку, што дня 14.III.39 Славацкі Сойм абвесьціў Славакію вольнай і незалежнай дзяржавай. Сталася гэта пасьля візыты прэм'ера Тіссо ў Гітлера. Аружныя нямецкія сілы ізноў сканцэнтраваны каля Чэхаславаччыны. На чале славацкага ўраду стаў Тіссо, у ўрад увайшлі ўсе ўсунутыя і арыштаваныя чэхамі міністры.**

**Абвешчаньне незалежнасьці Славакіі стварае новы ўклад палітычных сіл ня толькі ў д. Чэхаславаччыне, але і ў суседніх дзяржавах. Тэлеграмы прынясьлі весьці, што на граніцы Вугрыі і Карп. Украіны пачаліся бітвы, пры гэтым вугры пасунуліся ўперад, займаючы цэлы рад вёсак. Відаць, Вугрыя, карыстаючыся з абвешчаньня незалежнасьці Славакіі, хоча далучыць да сябе Карп. Украіну і стварыць супольную з Польшчай граніцу.**

**Польшч сканцэнтравала войска на граніцы Карп. Украіны. Чэскі прэз. Гаха і мін. Хвалькоўскі паехалі да Гітлера і прасілі ўзяць у абарону Чэхію. Нямецкая армія ўвайшла ў Прагу. Чэхаславаччына перастала існаваць. Падзеі разьвіваюцца.**

### АГУЛЬНЫ АГЛЯД.

Перад агульным аглядам палітычнага жыцьця, трэба адцеміць важную падзею з рэлігійнага жыцьця, а гэтай падзеяй ёсьць **выбары новага Рымскага Папы** (2.III), якім стаў кардынал Аўгень Пачэльлі, які прыняў імя свайго папярэдніка і назваўся **Пій XII.** Выбары Папы Пія XII выклікалі здаваленьне ў „дэмакратычных“ дзяржавах, а засьцярогі ў фашыстоўскіх, асабліва ў Нямеччыне.

* * *

У першай палавіне сакавіка трохі выясьніліся рэзультаты эўрапэйскай мабілізацыі сіл, як на Захадзе, так і на Ўсходзе. На Захадзе, як відаць, Гішпанія не пайшла на старану восі Парыж—Лендын (аб прычынах мы пішам ніжэй), Бэльгія хістаецца, куды ісьці, нованазначаныя выбары ў парлямант маюць выясьніць яе становішча. Урэшце Бэльгіі грозіць дзяржаўны крызыс і падзел на дзьве часьці: Валёнію і Флямандыю. Галяндыя здэцыдавана стаіць на старане восі Парыж—Лёндын, (з гэтай восяй вяжуць яе супольныя каляніяльныя інтарэсы). На Ўсходзе Грэцыя, Турцыя, Югаславія, Румынія, схіляюцца на старану восі Парыж—Лёндын, Баўгарыя, Вугрыя, Славакія, Карп. Украіна — на старану восі Рым—Бэрлін, аб Польшчы мы пішам на іншым месцы. Прыбалтыцкія дзяржавы (Літва, Латвія, Эстонія) маюць сымпатыю да восі Парыж—Лёндын, а Фінляндыя — да восі Бэрлін — Рым. Ляжачыя ў старане Скандынаўскія дзяржавы хочуць быць цалком нэўтральнымі, але нутраныя іх сымпатыі болей на старане восі Лёндын — Парыж. Гэта ёсьць агульны агляд палітычнай сытуацыі ў Эўропе. Ясна, што гэта сытуацыя можа яшчэ зьмяніцца (бо палітыка ёсьць рэчай вельмі зьменнай), але агулам бяручы контуры палітычнай карты Эўропы цяпер даволі выразны.

### ЯК СТАЛІН ХАРАКТЭРЫЗУЕ ПАЛІТЫЧНАЕ ПАЛАЖЭНЬНЕ?

10. III. быў адчынены ў Маскве 18 Кангрэс Камуністычнае партыі, на якім Сталін так схарактэрызаваў сучаснае паліт. палажэньне. Вайна за перадзел сьвету, казаў Сталін, фактычна вядзецца ўжо ад 1935 г. у Азіі, Афрыцы і Эўропе. Ніякія „восі“, „трыкутнікі“ і „антыкамуністычныя пакты“ ня могуць скрыць факту, што ў гэтым часе Японія заўладала аграмадным прасторам у Кітаі, Італія — Абісыніяй, Нямеччына — Аўстрыяй і Судэтамі, а Нямеччына і Італія супольна заўладалі Гішпаніяй. Гэтак званы „антыкамінтэрнаўскі пакт“ выразна скіраваны процiў Англіі, Францыі і Злуч. Штатаў. Дэмакратычныя дзяржавы хоць сільнейшыя, аднак уступаюць перад дзяржавамі фашыстоўскімі і прычын уступлівасьці ня трэба шукаць у іхнай слабасьці. Палітыка неўмешваньня, практыкаваная Англіяй і Францыяй вядзе да напасьлівасьці і ваенных канфліктаў.

Вельмі характэрныя словы прысьвяціў Сталін украінскай справе, ўзьнятай на бачынах французкай, англійскай і амэрыканскай прэсы. Сталін думае, што ўвесь гэты падазроны шум меў на мэце прабудзіць гнеў Савецкага Саюзу процiў Нямеччыны, атруціць атмасфэру і справакаваць вайну бяз выразнай прычыны. Магчыма, што існуюць у Нямеччыне шалёныя людзі, якія думаюць далучыць сланя, г. зн. Савецкую Украіну да камара, якім ёсьць Карпацкая Украіна. Але для такіх людзей знойдуцца ў Саветах „кафтаны бясьпечнасьці“. Нямеччына паводле Сталіна, зрабіла заходнім дзяржавам разчараваньне, бо замест ісьці на ўсход, павярнула на захад і жадае калёніяў. Выглядае, што яны ўступілі Нямеччыне Чэхаславаччыну з тым, каб Ням. ішла на ўсход процiў Савецкага Саюзу, але цяпер немцы адказваюцца споўніць сваё забавязаньне. Цяпер Англія і Францыя ўжо ня вераць у „мюнхэнскую эру“ і дзеля гэтага ўваружаюцца. Гэтае самае робіць і Савецкі Саюз!

Як бачым у славах Сталіна спасьцерагаюцца „цёплыя ноткі“ адносна Нямеччыны.

### ЯШЧЭ АБ НЯМЕЦКІХ ПЛЯНАХ.

А французкая прэса далей разводзіцца над нямецкімі плянамі на Усходзе. Гэтак, пашыраны часапіс „Ilustration“ зьмясьціў пагляды быццам аднаго з выдатных нямецкіх павадыроў, які гэтак казаў: Чэраз Прыкарпацкую Русь закранём справу самастойнасьці цэлай польскай Украіны, паіменна цэлай Усходняй Галіччыны, Волыня і Палесься, апіраючыся на права самаазначэньня народаў. У хвіліне, калі агітацыя дойдзе да найвышэйшага пункту, Нямеччына вышле неспадзявана ў Варшаву ўльтіматум, жадаючы звароту карыдору і Горнага Шлёнска. Чэхам абяцаем аддаць Цешын, калі яны нас падтрымаюць. Польшч будзе прымушана пакарыцца, таксама, як гэта зрабіла ў верасьні Чэхаславаччына, бо ніхто не захоча яе бараніць... Польшч будзе зьменена на унію трох сфэдэраваных дзяржаў, якая абойме палякоў, беларусаў і ўкраінцаў, есьлі ўкраінскія землі не будуць адразу зарганізаваны у самастойную дзяржаву. Польшч будзе прымушана зьвярнуць карыдор і Шлёнск; пакінуць ёй Пазнаншчыну... Расейская і польская Украіна будуць тварыць некалі 40 мільённую дзяржаву. Фюрэр здэцыдаваны стварыць гэту дзяржаву не як нямецкую калёнію, але як саюзьніка. Істотнаю мэтаю Нямеччыны ёсьць выкарыстаць Украіну ў паходзе на Каўказ і да яго багацьцяў. Немцы хочуць зрабіць скок па Польшчы і Чэхаславаччыне ў кірунку Савецкай Расеі, апіраючыся на клічы самаазначэньня народаў. Усе вызваленыя гэтакім спосабам народы будуць зарганізаваны ў вялікую Лігу Народаў, якою будзе кіраваць Бэрлін. Немцы лічаць у гэтых плянах на падтрыманьне Італіі, якой сваім парадкам памогуць да здабыцьця Тунісу і апірышча на Міжземным моры. Вочавідная рэч, што Італія не пасьмее сягнуць па Туніс, пакуль Нямеччына не сканцэнтруе ўсей сваей арміі на французкай граніцы.

Гэтакія быццам ёсьць нямецкія пляны паводле „Ilustration“. Львоўскае „Słowo Narodowe“ (5. III. 39), якое гэтыя весткі перадрукавала, так піша: „Няма ведама, ці Гітлер мае сапраўды гэтакі плян, які яму прыпісвае „Ilustration“. Магчыма што ідзе тут пра французкую прапаганду ў Польшчы (запужваньне нямецкай небясьпекай, каб павярнуць Польшч у бок Францыі—рэд.). З другога боку, кажа далей „Сл. Нар.“, мы ня ёсьць пэўны, ці Нямеччына не задумывае нічога процiў нас. Дзеля гэтага добра будзе, калі Польшч прыгатуецца на тое, каб нямецкім плянам і нямецкай волі процiўставіць польскія пляны і польскую волю“.

Гэтыя весткі мы ўзялі з украінскага часапісу „Батьківщина“ (12. III. 39) выходзячага ў Львове.

### КАЛЯ ГІШПАНІІ.

У Гішпаніі падзеі пайшлі ў зусім непрадбачаным кірунку, іменна, разьбітыя рэспубліканцы пачалі змагацца паміж сабою. Пасьля адрачэньня прэз. Азаны ад свайго становішча, процiў ураду прэ'мера Нэгрына, з ведама Англіі і Францыі, была зроблена змова вайсковых кругоў, нездаволеных ягонай палітыкай. Дзяржаўны пераварот удаўся, Нэгрын у апошнюю мінуту на самалёце ўцёк у Францыю, тудыж уцяклі і іншыя сябры гішп. чырвонага ўраду, а разам з імі ведамая Ля Пассіонарыя, гішпанская чэкістка. На чале новага ўраду стаў ген. Міаха, а дыктатарам рэсп. Гішпаніі — палк. Кассада. Нэгрыну закідаюць, што быў агентам чужых сіл (Саветаў). У абароне Нэгрына выступілі гішпанскія камуністы, процiў якіх ген. Міаха ўжыў артылерыі, танкаў і самалётаў. Пасьля тыднёвых крывавых бітваў, камуністы былі пераможаны — а тымчасам ген. Франко прыгатовіў новае наступленьне на Мадрыт і Валенцыю, якое мае пачацца 19.III. Рэспубліканскія ваенныя караблі з Картагены ўцяклі ў французкі порт Бізэрту (Туніс), дзе іх разаружылі.

Пасьля прызнаньня генэрала Франко Англіяй і Францыяй, гэтыя дзяржавы выслалі ў Гішпанію сваіх амбасадараў. Зьвярнуў увагу факт, што Францыя выслала на амбасадара ў Гішпанію вялікага абаронцу крэпасьці Вэрдэн (з Вялікай вайны) маршала Пэтэна. Левая франц. прэса пісала, што для ген. Франко гэта завялікая чэсьць. Гэта назначэньне паказвае, якую вялікую вагу мае Гішпанія для французкай палітыкі і як моцна хоча Францыя прыцягнуць ген. Франко на свой бок.

Аднак ген. Франко да восі Парыж-Лёндын прыбліжацца ня хоча. Ён мае іншыя пляны: **ён хоча адбудаваць даўнейшую магутнасьць Гішпаніі і вярнуць для яе землі ўтрачаныя на карысьць Англіі і Францыі.** А да гэтай мэты нац. Гішпанія можа дайсьці толькі ў саюзе з Ням. і Італіяй. Урэшце і Гібралтар, якім уладае Англія ляжыць на гішпанскай тэрыторыі, а гэта дражніць нацыянальную гордасьць гішпанцаў. За мяшок золата ген. Франко сваіх мэтаў прадаваць ня хоча. Кажуць нават, што трыкутнік Бэрлін-Рым-Токіё мае стацца чатырыкутнікам, з дадаткам сюды яшчэ і Мадрыту, калі ён будзе ўзяты генэралам Франко.

З падзеямі ў Гішпаніі зьвязаны пляны Муссоліняга. Кажуць, што сваю прамову, адкладаную ўжо двойчы, ён мае сказаць 23.III., у якой ясна азначыць свае жаданьні. Паводле чутак, гэтыя жаданьні вялікімі ня будуць: ён зажадае правоў у Тунісе, у Суэскім канале і ў Джыбутті. Частка французкай прэсы піша, што каліб Муссоліні паставіў гэтыя жаданьні, дык яшчэ можна былоб згаварыцца — і тады няхай сабе ён разам з Гітлерам ідзе на ўсход...

У апошніх днях разыйшліся чуткі, што Чэмбэрлен у хуткім часе выступіць з праектам скліканьня вялікай міжнароднай канфэрэнцыі, на якой спачатку абгаварылася-б справа разаружэньня, а каліб гэта справа была вырашана памысна, канфэрэнцыя прыступіла-б да новага падзелу сьвету.

### ПОЛЬСКА-НЯМЕЦКІЯ АДНОСІНЫ.

Абсэрвуючы цяперашнія польс.-ням. адносіны, прыходзім да перакананьня, што як адна так і другая старана высьцерагаецца завастрэньня адносін. Найболей важнай справай зьяўляецца цяпер урэгуляваньне ўзаемных адносін да нац. меншасьцяў: польскай ў Нямеччыне, а нямецкай у Польшчы. Перагаворы, якія адбываліся ў Бэрліне, прарваны, але паводле заявы мін. Бэка, маюць быць навязаны новыя. Перагаворы прарваны з прычыны вялікага разыходжаньня ў паглядах прадстаўнікоў аднэй і другой дзяржавы. „Warsz. Dziennik Narodowy“ (10. III) усьлед за „Kur. Warsz.“ піша, што немцы хочуць, каб Польшч паддала рэвізіі свае адносіны ня толькі да нямецкай меншасьці, але да ўсіх нац. меншасьцяў. Нямеччына гэтым самым выступае ў ролі іх пратэктара. На гэта Польшч згадзіцца ня можа. Такую тактыку Ням. пакінула Чэхаславаччыне, кажа „W. Dz. Nar.“ а Польшч ня ёсьць Чэхаславаччынай і дзеля гэтага такой тактыкі прыняць ня можа.

### РОЗНЫЯ ВЕСТКІ.

— Прэса піша, што Гітлер, згаджаючыся на заняцьце Вугрыяй Капр. Украіны, адлажыў вырашэньне ўсходняе праблемы, пакуль ня вырашыць справы калёніяў.

— У Львове пачаліся студэнцкія забурэньні, якія ліквідуе паліцыя рашучымі спосабамі. Арыштавана да сотні студэнтаў. Пры здабываньні студэнцкіх (польскіх) дамоў, дзе мясьціліся студ. арганізацыі, былі раненыя.

— У Беражанскім павеце (Галіччына) закрыты ўсе ўкраінскія арганізацыі і гурткі лікам каля 170. Мэта ліквідацыі — ўспакаеньне павету, які адзначаўся рознымі антыдзяржаўнымі выступленьнямі.

**Беларусы, калі хочаце ўсебакова пазнаць беларускую і сусьветную палітыку, выпісвайце „Беларускі Фронт“. Пашырайце яго пасярод сваіх суседзяў і знаёмых!**

Рэдактар-выдавец:
**мгр. В. Гадлеўскі.**

Redaktor i wydawca: mgr. W. Godlewski.

Druk. M. Bogatkiewicza i B. Trućko. Wilno, ul. Ad. Mickiewicza 22-a, m. 30.